# ДУМКІ й ПАГЛЯДЫ



Дадатак да «Беларускага Сьвету», № 4.

## КАТАЛІЦКІ Уладыка для Беларусаў.

Ну вось, ізноў Беларусы маюць свайго каталіцкага, дакладней вунійнага, Уладыку. Папа рымскі назначыў на гэты паважны пасад айца Уладзіміра Тарасэвіча з Чыкага, ЗША. Апастольскі візытатар для Беларусаў паза Беларусьсю, гэта афіцыйны тытул Уладыкі, быў высьвячаны ў чацьвер, 8-га верасьня 1983 году ў катэдры сьв. Мікалая ў Чыкага.

У гэты працоўны дзень, на высьвячэньне беларускага біскупа сабралася ў царкве каля 700 чалавек на чале з кардыналам Бэрнардынам ды папскім паслом у ЗША. Чын высьвячэньня быў велічны, урачысты ды глыбока рэлігійны. Ардынацыя беларускага Уладыкі закончылася нашым рэлігійным гімнам «Магутны Божа».

Таго-ж самага дня вечарам адбылася вялікая ўрачыстасьць прысьвечаная нагодзе высьвячэньня беларускага Уладыкі ў новым гатэлі Marriott Inn, дзе ізноў сабралася на вячэру ды адумысловую праграму каля 500 чалавек. Прыняцьце было вельмі мілае й надзвычай добра арганізаванае.

**Многія Лета, Уладыка Уладзімір!**

Прысутны

## Крыху аб беларускіх кніжках...

Апошнім часам на эміграцыі пачало зьяўляцца даволі шмат тоўстых і тонкіх беларускіх кніжак. Зьява дасюль небывалая. Зьява цудоўная. Выглядае, што Беларусы нарэшце пачалі чытаць, пачалі цаніць сваё роднае слова, а з гэтага вынікае, што пачалі купляць беларускія кніжкі. Няхай так будзе й далей...

Нядаўна я набыў і прачытаў кнігу Ул. Глыбіннага «Пад Лебядзіным Знакам». На маю думку, гэта найлепшая кніга гэтага аўтара — кніга сапраўды прыгожа, зьмястоўна й па-мастацку напісана. Гэтая гістарычна-рамантычная аповесьць пра Максіма Багдановіча чытаецца лёгка, займальна й цікава. Хацелася-б, каб падобных кнігаў выдавалася больш.

М. К.

**Ад Рэдакцыі:**

Гэтую кнігу Ул. Глыбіннага можна набыць у выдавецтве газэты «Беларус» у Нью Ёрку, або ў выдавецтве часопісу «Беларускі Сьвет».

**Беларускія патрыёты! Падтрымоўвайце сваю родную прэсу!!!**

## Як пісаць «Беларусь-беларускі» па-ангельску?..

Нядаўна пайшоў я ў мясцовую публічную бібліятэку й пачаў пераглядаць ангельскія слоўнікі, вышукваючы ў іх інфармацыю пра словы «Беларусь-беларускі».

Тое, што я знайшоў, мяне моцна зьдзівіла й насьцярожыла. Розныя слоўнікі падаюць транскрыпцыю нашага нацыянальнага назову парознаму: **Belo**russia, **Bielo**russia, **White**-Russia, **Byelo**-Russia і **Byelorussia...** Хто наварыў гэтае кашы ў ангельскіх слоўніках, мапах, глёбусах ды іншых дапамагова-інфармацыйных крыніцах цяпер цяжка выясніць. Можна аднак дагадвацца, што віну за гэтую неразумную неразьбярыху не ў малой меры паносяць нашыя розныя «моваведы», якія дзеля неабдуманых палітычных меркаваньняў, стараліся слова «Беларусь» выкручваць на ўсе лады й бакі, каб пазбыцца, на іх думку, зьліжэньня гэтае нашае назвы са словам «Russia».

Ну, бо як-жа? Паглядзіце самі: усе бяз вынятку зьмешваюць паняцьце «Беларусь» з «Russia». Ці гэта так, ці не, тут гаварыць аб гэтым ня будзем, бо гэта асобная тэма, якая вымагае ўсебаковага вывучэньня й абгрунтаваньня. Пры гэтым хачу зьвярнуць маю ўвагу на адну акалічнасьць, а пайменна: Заміж «выкручваць» назоў «Беларусь-беларускі» як каму падабаецца, няхай-бы гэтыя «моваведы» напісалі, узгоднілі ды выдалі добрую інфармацыйную кнігу ці кніжыцу аб Беларусі ў ангельскай мове.

Мы наракаем, шукаем прычынаў, вінавацім іншых, што пра нас на Захадзе мала ведаюць. Выкручваем нават словы «Беларусь-беларускі», быццам яны таксама вінаватыя, што пра нас ўсё-ж такі мала ведаюць. Але неяк ніхто не пафатыгуецца задаць сабе пытаньне — а адкуль-жа, скажам, звычайны амэрыканец можа ведаць пра Беларусь, калі на гэтую тэму **няма** амаль-што ніякае інфармацыйнае літаратуры ў публічных бібліятэках або прыватных зборах. Ці не таму гэтае сальта-мартале з назваю «Беларусь-беларускі» выступае ў розных слоўніках і таму пад. літаратуры?

А тым часам і далей наглядаецца, як некаторыя нашыя эміграцыйныя грамадзкія й палітычныя дзеячы ўпарта й заўзята прапіхаюць свой асабісты «навуковы» пераклад словаў «Беларусь-беларускі» ў розныя ангельскія навуковыя ўстановы й публікацыі. Зьява гэтая без засьцярогаў нездаровая, калі ня цалком шкодная, і робіць уемную прыслугу прапаганьдзе нашага нацыянальнага назову ў ангельскай мове.

Як-жа на самай справе выглядае пераклад словаў «Беларусь-беларускі» на агульна ведамыя мовы сьвету? Тут хачу я паклікацца на часопіс «Беларуская Лінгвістыка», які рэдагуюць такія ведамыя вучоныя й моваведы, як: М. Бірыла, А. Жураўскі, В. Мартынаў, М. Суднік ды іншыя. Вось як перакладае гэты часопіс наш нацыянальны назоў на іншыя мовы: **Byelorussian Linguistics, Belorussische Sprachwissenschaft, La Linguistique Biélorusse.** Вывады напрошваюцца самі.

Мне здаецца, што Беларуская эміграцыя настолькі моцная й сьведамая, што лёгка можа зрабіць рашучы ўплыў на ўсеагульнае пашырэньне нейкага аднаго перакладу нашых нацыянальных назоваў ў ангельскую мову сярод англамоўнага сьвету. Скончыць шкодную партызаншчыну ў так важнай справе трэба абавязкава й неадкладна.

Ці ня час, каб Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва склікаў адумысловую канфарэнцыю ў гэтай справе нашых эміграцыйных

моваведаў, навукоўцаў, рэдактароў ды выбітных грамадзкіх дзеячоў? Такі парудзённы «зьезд» мог-бы адбыцца, скажам для прыкладу, у Кліўляндзе ці ў іншым выгадным месцы, выключна прысьвечаны канчатковаму ўзгадненьню, як маем пісаць у ангельскай мове словы «Беларусь-беларускі»...

Кожны беларускі асыродак у ЗША, Канадзе, Англіі ды іншых краінах, мусіў-бы прыслаць сваіх некалькі да гэтага падрыхтаваных прадстаўнікоў. I толькі пасьля агульнага й канчатковага ўзгадненьня перакладу нашага нацыянальнага назову ў ангельскую мову, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва зможа пры дапамозе іншых грамадзкіх інстытуцыяў «засыпаць» усе англамоўныя выданьні добра і ясна напісанай брашурай, як раз і назаўсёды трэба пісаць наш назоў у ангельскай мове. На маю думку, зрабіць гэта трэба неадкладна й бяз ніякіх але...

П. С.

## Беларуская Газэта ды іншае...

З тых ці іншых прычынаў беларуская палітычная эміграцыя ня можа здабыцца, каб стала выдаваць сваю беларускую тыднёвую газэту. Варта пры гэтым ведаць, што некаторыя меншыя лікам палітычныя эміграцыі іншых народаў робяць гэта без ніякае асаблівае натугі. Чаму Беларусы ня могуць публікаваць сваю тыднёвую газэту тут гаварыць ня буду. Хочацца аднак выказаць некалькі заўвагаў аб выдаваньні беларускае газэты наогул, хоць-бы нават і месячнае.

Як ведама, месячная газэта «Беларус» выдаецца ўжо даўно й даволі рэгулярна, хоць заклікі й просьбы аб фінансавай дапамозе паўтараюцца да нуды безперапынку амаль у кожным нумары ды і ў спэцыяльных закліках. Часамі выдаецца, што месячнік «Беларус» ледзь-ледзь дыхае. Ясная рэч, што ня толькі фінансавы бок газэты кульгае, — кульгае й бок рэдактарскі. Іншы раз газэта робіць уражаньне, што пішацца яна нібы «на калені», — пасьпешліва ды абы адбыць павіннасьць...

Дзівіцца гэтаму ня прыходзіцца, бо ўсё зьвязанае з газэтаю робіцца ў парадку дабраахвотнасьці й грамадзкае нагрузкі, можа няраз і над сілу ў так званыя вольныя хвіліны.

Аднак газэта хоць і кволая, але існуе й публікуецца.

Варта цяпер прыглядзіцца да імёнаў тых, хто стала й выносьліва падтрымоўвае газэту фінансава. Імёны гэтыя пасьлядоўна паўтараюцца. Ня ёсьць сакрэтам, што некаторыя зь іх маглі-б фігураваць перад значна большымі сумамі ахвяраў, а то вельмі кідаецца ў вочы, што нашыя прафэсыяналы, — дактары, інжынеры адвакаты ды іншыя «тытулованыя» асобы зьяўляюцца больш скупымі й агранічанымі, як звычайныя фабрычныя рабочыя або сяляне. Толькі паслухаць, як нашыя «вялікія» людзі пры кожнай нагодзе выхваляюцца сваім вялікім грамадзкім «даробкам» і патрыятызмам, але калі прыходзіць да ахвяры на газэту ці кніжку, дык яны як зайцы хаваюцца бяз сораму й годнасьці ў кусты свае нізкае скупасьці й скнэрасьці.

Няменш дзівіць мяне адзін вельмі сумны факт — факт ігнараваньня беларускае газэты дзеля вузка й нізка палітычных уяўленьняў так званымі БЦРаўцамі. У сьпісках ахвярадаўцаў на газэту «Беларус» ніколі не пабачыце імёнаў «заслужаных» дзеячоў БЦР, — бо, маўляў, газэта падтрымоўвае БНР. Можа гэта й так, але-ж гэтая

газэта таксама не зваёўвае пазыцыяў БЦР., — значыць, што газэта «Беларус» больш-менш нейтральная.

Найлягчэй сказаць, што газэта не па маёй палітычнай дарозе, значыць, падтрымліваць яе я ня маю патрэбы. Зразумела, што падобны аргумэнт не вытрымлівае ніякае крытыкі, бо толькі вузка агранічаныя асобы ды іншыя прастафілы могуць падобна аргумантаваць. Ведама, што ня ўсе прыхільнікі БЦР зьяўляюцца людзьмі агранічанымі, відавочна тут выступае яшчэ і іншая прычына, — гэта звычайная, вынікаючая з камплексу нізшасьці, скупасьць.

На сваю справу даць большую ахвяру, дык вельмі, вельмі цяжка, але для іншых, хто-б яны ня былі, неяк шмат лягчэй. Гэта насьледак шматвяковае няволі выпукляе сваю сілу навыку.

Ці-ж не таму нашыя «дзеячы» ў Саўт Рывэры зь нявольніцкаю пакорлівасьцю купляюць і чытаюць варожую нам усім газэту «Новое... Слово»? Што за парадокс! Варожую газэту купляць і падтрымваць, гэта нібы нічога, але сваю беларускую, гэта амаль што здрада. Калі-б гэта было не праўдзіва, дык было-б сьмешна.

Нехта скажа: а дзе-ж патрыятызм у гэтых нібы беларускіх людзей? На гэтую тэму можа нехта іншы прадоўжыць мае разважаньні.

К. С.

### Яшчэ пра публікацыю «Голасу Царквы»...

Пасьля мае заўвагі ў «Думках і Паглядах» пра занядбаньне публікацыі «Голасу Царквы», да мяне дайшло чарговае выданьне гэтага часопісу, але... гэта ўжо не той папярэдні «Голас Царквы». Зусім не дзіўлюся, што Міхась Міцкевіч ад рэдактарства адмовіўся.

С. М.

**Ад Рэдактара:**

Наступнае выданьне «Беларускага Сьвету» заплянована на раньнюю вясну 1984 году. Часопіс будзе прысьвечаны камп. Міколу Шчаглову-Куліковічу. Матэрыялы ў часопіс просіцца прысылаць не марудзячы.

Добрае інфармацыйнае кнігі, ці нават брашуры, пра Беларусь у ангельскай мове, на вялікі жаль, няма. Тое-ж, што ёсьць — слабенькае і агранічанае. Патрэба добрае інфармацыйнае кнігі аб Беларусі ў ангельскай мове рэзка адчуваецца ўжо даўно, але бяда ў тым, што няма каму такое кніжкі напісаць.

**Апошнім часам на «Беларускі Сьвет» былі атрыманыя наступныя ахвяры:** ад Б. Даніловіча, В. Стомы, Ч. Будзькі, Р. Галяк, Г. Р. (у памяць Ані Катковіч), М. Панькова, А. Бяленіса, С. Карніловіча, М. Белямука, В. Кіпеля, Др. Тумаша, А. Асіпчыка, В. Кажана, Др. Шчорса. Ч. Найдзюка, С. Шабовіча, Др. Смаршчка, М. Пашкевіча, М. Нікана, К. Станкевіча, В. Ліпскага ды інш. **Усім шчыра дзякую!** Рэд.



**Паважаныя чытачы! А як-жа з ахвяраю на «Беларускі Сьвет»?**

---

Артыкулы ў «ДУМКІ й пагляды» ня могуць быць доўгімі ды абы якімі. Ананімных артыкулаў да друку ня прымаем.